



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

19 жніўня 2016 года №34 **(1112)**


**Як жэняцца выратавальнікі ў Маладзечне**
старонка 21

**Як беларускі хлопчык у Амерыцы стаў выдатнікам**
старонка 6

**27-гадовага пісьменніка з Вілейкі вывучаюць у ЗША**
старонка 23

**Спісы кандыдатаў у дэпутаты па рэгіёне**
старонка 18

**Вілейка: спецыялісты-медыкі пачалі працу ў Цэнтры эпідэміялогіі**
старонка 2



# І дождж курсанткам не памеха

**Будучыя жанчыны-афіцэры рыхтуюцца да прысягі пад Смаргонню**

старонка 20

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

## Устанавілі цэны за карыстанне падручнікамі

Міністэрства адукацыі вызначыла расцэнкі за карыстанне падручнікамі ў 2016/2017 навучальным годзе.

Даражэй за ўсё давядзецца заплаціць за карыстанне камплектам для шостага класа: 14 рублёў 4 капейкі. Менш астатніх – бацькам трэцякласнікаў – 5 рублёў 50 капеек.

Не змянілася цана толькі на падручнікі для дзявятага класа, заўважае TUT.BY.

Заплаціць за карыстанне падручнікамі неабходна да 1 кастрычніка бягучага навучальнага года.

**Цана школьных падручнікаў у 2016/2017 навучальным годзе**

| Клас | Кошт камплекта, рублёў | Плата за карыстанне, рублёў |
|---|---|---|
| 1 | 11,23 | 5,61 |
| 2 | 15,40 | 7,70 |
| 3 | 11 | 5,50 |
| 4 | 13,38 | 6,69 |
| 5 | 21,51 | 10,76 |
| 6 | 28,09 | 14,04 |
| 7 | 16,24 | 8,12 |
| 8 | 17,39 | 8,70 |
| 9 | 16,03 | 8,01 |
| 10 | 22,92 | 11,46 |
| 11 | 23,97 | 11,98 |

## Пачытаць і пагуляць прапануе бібліятэка

ВІЛЕЙКА

Супрацоўнікі бібліятэкі аб'явілі два конкурсы на лета.

Традыцыйны конкурс сёлета назвалі "Пад ветразем дзяцінства". У пачатку лета ўдзельнікі атрымалі буклеты з рэбусамі, крыжаванкамі і пытаннямі па літаратуры.

Конкурс на любімую цацку ладзяць упершыню. На свяце, запланаваным на пачатак верасня, маленькія чытачы творча прадставяць свае цацкі, звязаныя з нейкім мастацкім творам. Пра гэта распавяла загадчыца аддзела па працы з дзецьмі **Святлана Таміліна.**

## Выставы і майстар-класы: у Вілейцы рыхтуюцца да тыдня ўстаноў дадатковай адукацыі

ВІЛЕЙКА

У пачатку верасня супрацоўнікі Цэнтра дадатковай адукацыі запланавалі шмат мерапрыемстваў.

Сярод якіх выставы, майстар-класы па розных відах мастацкай творчасці, прэзентацыі гурткоў.

Напрацягу тыдня Цэнтр будзе запрашаць вучняў вілейскіх школ на мерапрыемствы.

Яны пройдуць у рамках Рэспубліканскага тыдня ўстаноў дадатковай адукацыі.

Паведаміла намеснік дырэктара Цэнтра **Наталля Рыжэвіч**.

## Ушанавалі памяць жаўнераў

ВІЛЕЙКА

15 жніўня на польскіх вайсковых могілках урачыста адкрылі мемарыяльную дошку.

На ёй пазначаны прозвішчы 67 жаўнераў Войска Польскага, якія загінулі ў наваколлях Вілейкі падчас савецка-польскай вайны 1919-20 гадах і пахаваны на гэтых могілках.

Імёны атрымалася высветліць дзякуючы намаганням польскага гісторыка і дыпламата **Адама Качынскага**.

Сябры Таварыства аховы помнікаў замовілі выраб дошкі і ўмацавалі яе на абеліску пасярод вайсковых могілак.

Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі прадстаўнікі Амбасады Рэспублікі Польшча ў Беларусі і мясцовыя жыхары. Пра гэта распавёў старшыня Таварыства Аховы помнікаў **Дзяніс Канецкі.**

## Выстава ў памяць пра жонку

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы праходзіць выстава жывапісу і графікі "Малыш".

На ёй прадстаўлены 36 работ член-карэспандэнта Пятроўскай Акадэміі навук і мастацтваў **Леаніда Безнаса**.

Выстава прысвечана памяці жонкі мастака – Любові. Таму на многіх творах можна пабачыць яе вобраз. Таксама ёсць палотны з краявідамі Мядзельшчыны.

**Аддзел інфармацыі.**



Малыдыя спецыялісты (злева направа) Крысціна Горбач, Ягор Горбач, Ганна Буцько.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# Тры спецыялісты-медыкі пачалі працу ў Цэнтры эпідэміялогіі

ВІЛЕЙКА

**Маладыя людзі прыйшлі працаваць у цэнтр ад 1 жніўня.**

Калі ў калектыў прыходзіць моладзь, кіраўніцтва задаволенае. Па словах галоўнага доктара Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Наталлі Жаўняровіч**, маладыя спецыялісты – гэта заўжды свежы подых. Часам яны дапамагаюць старэйшым калегам з камп'ютарам разабрацца ці перакласці з замежнай мовы інструкцыю да складанага прыбора.

Са свайго боку больш дасведчаныя калегі прапануюць моладзі багаты досвед у працы. А яшчэ, кажа галоўны доктар, юнакам і дзяўчатам Цэнтр дапамагае вырашыць жыллёвыя пытанні.

Тыя, хто жывуць у інтэрнаце, кожны месяц атрымліваюць дзве базавыя велічыні (42 рублі) на аплату пакоя. А для тых, хто наймае кватэру, дапамога – тры базавых велічыні (63 рублі).

### Як жыве і працуе ў Вілейцы маладая сям'я дактароў

Дактары-інтэрны **Ягор** і **Крысціна Горбачы** – маладая сям'я. Ягор з Нарочы, што на Вілейшчыне. Крысціна ж паехала за каханым за 450 кіламетраў з Рэчыцы Гомельскай вобласці. Муж – доктар-гігіеніст, жонка – доктар-эпідэміёлаг.

Ажаніліся маладыя людзі падчас вучобы ў Мінскім медыцынскім універсітэце перад размеркаваннем. Кажуць, не хацелася, каб на некалькі год іх раскідалі па розных кропках Беларусі.

Прафесію абралі свядома. Ягор з дзяцінства назіраў за працай мамы-медсястры. У сям'і Крысціны медыкаў не было, аднак прафесія спадабалася. Разглядала яшчэ варыянты валеолаг і эколаг. Аднак абрала медыцыну.

Ведаючы, што Крысціна з далёкай Рэчыцы, пытаюся пра ўражанні ад Вілейкі.

– Так атрымалася, што я ўцякла са свайго горада, бо лічыла яго маленькім. Хаця ў Рэчыцы 70 000 жыхароў. А ў выніку трапіла ў горад, які на палову меншы, чым мой родны. Але Вілейка спадабалася. Тут прыгожая плошча і касцёл. Шмат зеляніны і свежага паветра. З непрыемных уражанняў – стары грамадскі транспарт. У роднай Рэчыцы аўтобусы маюць куды больш прывабны выгляд.

Маладыя муж і жонка сыходзяцца ў тым, што адзіная іх праблема – няма камфортнага жылля. Пэўным чынам яна вырашаная: сям'я жыве ў інтэрнаце і атрымлівае грошы на яго аплату. Аднак гэты інтэрнат – для навучэнцаў каледжа і рабочых. Маладой сям'і хацелася б большай утульнасці і цішыні.

Па словах Ягора, месцаў для адпачынку моладзі ў Вілейцы вельмі мала. Ды і цаной яны часам палохаюць. У некаторых сталічных кінатэатрах білеты таннейшыя, чым тут.

На пытанне, ці застануцца дактары ў Вілейцы пасля абавязковай адпрацоўкі, яны адказаць не могуць.

– Ведаеце, некалькі год назад я і ўявіць не магла, што апынуся ў Вілейцы. Таму як можна цяпер рабіць нейкія прагнозы на наша будучае жыццё, – адказала Крысціна.

### Віляйчанка Ганна: я марыла вярнуцца ў родны горад

**Ганна Буцько** скончыла Віцебскі медыцынскі каледж. У Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі працуе памочнікам гігіеніста і валеолагам – спецыялістам па пытаннях здаровага ладу жыцця. Завочна вучыцца на інжынера-эколага.

Ганна – віляйчанка. Кажа, што пасля заканчэння каледжа планавала вярнуцца толькі ў родны горад. Іншых варыянтаў нават не разглядала.

Дзяўчына жыве з бацькамі. Таму праблемы, з якімі сутыкаюцца Ягор і Крысціна, аўтаматычна вырашаюцца. Ёсць жыллё, падтрымка і дапамога з боку родных. Заўсёды можна сустрэцца з сябрамі дзяцінства.

Пра медыцыну Ганна марыла даўно. І таму калі не прайшла па конкурсе ва ўніверсітэт, ад мары не адмовілася, пайшла ў каледж. Тое, што Віцебск знаходзіцца далёка ад Вілейкі, Ганну не палохала.

Родны горад дзяўчыне заўсёды падабаўся. Калі так складзецца жыццё, то пасля двух гадоў адпрацоўкі яна не супраць застацца.

Разам з Ягорам Ганна ўдзельнічала ў аб'ездзе школ перад навучальным годам, наведвала з праверкамі сацыяльны прытулак і дзіцячы лагер "Лясная казка". Праводзіла планавыя праверкі на прадпрыемствах горада.

Праца ў Цэнтры эпідэміялогіі, лічаць маладыя людзі, карысная для прафесійнага досведу і практыкі.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Каб магазін меў фішку:

## пакупнікам у Ільі дэманструюць калекцыю грошай

ВІЛЕЙКА

**У адным з магазінаў Ільі вісіць стэнд з калекцыяй грошай.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Прадавачка Алена Гайчук дэманструе калекцыю грошай.

На сцяне пад шклом – грошы розных краін. Ёсць купюры і манеты з Польшчы, Расіі, Украіны, Літвы. З больш экзатычных – ліванскія, індыйскія, македонскія грошы.

Уладальнікі калекцыі – сям'я **Сцепановіч** з Ільі. Яны індывідуальныя прадпрымальнікі, маюць некалькі магазінаў на Вілейшчыне. У адным з іх вырашылі размясціць стэнд.

Па словах **Алены Сцепановіч,** калекцыі 20 год. Роўна столькі, колькі гандлёвай дзейнасці прадпрымальніцы.

Першыя экспанаты жанчына прывезла з Вільні. Пасля быў адпачынак у Трускаўцы – і ў калекцыі з'явіліся ўкраінскія грошы. З турыстычнай паездкі ў Варшаву прывезла польскія.

Спачатку грошы, за якія нічога не набыла ў іншых краінах, жанчына проста складала ў стол. Калі іх стала шмат, з сынам **Яўгенам** падумалі пра калекцыю.

Супрацоўнікі магазіна кажуць, што пакупнікі звяртаюць увагу на стэнд. Асабліва цікавяцца маладыя людзі і замежныя турысты. Шмат распытваюць, некаторыя хочуць памацаць экспанаты.

Грошы, якія знайсці цяжка, сям'я замаўляе праз інтэрнэт. Так з'явіліся купюры з Лівана, Грэцыі, Катара, Афганістана, Венесуэлы. Па словах жанчыны, экзатычныя экспанаты адрозніваюцца ад іншых грошай па якасці матэрыялу. Ёсць нават пластыкавая купюра.

Жанчына кажа, што калекцыя будзе папаўняцца. Сёння ў магазіне прадстаўлены не ўсе экспанаты, якія мае сям'я.

– Чаму мы размясцілі калекцыю ў магазіне? Наша праца непасрэдна звязана з грашыма. Гэта першая прычына. А другая... Вельмі хацелася, каб у нашага магазіна быў свой твар, свая фішка, – кажа прадпрымальніца.

Аксана ЯРАШОНАК.

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 10.08 | | 17.08 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 7,00 | 70 000 | 7,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 200 | 1,62 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 500 | 0,65 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг (малады) | 67 500 | 6,75 | 69 900 | 6,99 |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 5 500 | 0,55 | 5 800 | 0,58 |
| Морква, 1 кг (маладая) | 6 500 | 0,65 | 6 900 | 0,69 |
| Баклажаны, 1 кг | 14 900 | 1,49 | 13 900 | 1,39 |
| Лімоны, 1 кг | 59 900 | 5,99 | 59 900 | 5,99 |
| Апельсіны, 1 кг | 26 900 | 2,69 | 26 900 | 2,69 |
| Мандарыны, 1 кг | 36 900 | 3,69 | 29 900 | 2,99 |
| Нектарыны, 1 кг | 38 000 | 3,80 | 37 900 | 3,79 |
| Ківі, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 19 900 | 1,99 |
| Буракі, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 15 000 | 1,50 | 9 900 | 0,99 |
| Агуркі, 1 кг | 7 900 | 0,79 | 11 900 | 1,19 |
| Перац, 1 кг | 14 900 | 1,49 | 14 500 | 1,45 |
| Кавун, 1 кг | 8 000 | 0,80 | 6 500 | 0,65 |
| Дыня, 1 кг | 16 900 | 1,69 | 14 900 | 1,49 |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 4 000 | 0,40 | 2 900 | 0,29 |
| Вінаград, 1 кг | 32 500 | 3,25 | 29 000 | 2,90 |
| Бананы, 1 кг | 23 500 | 2,35 | 17 500 | 1,75 |
| Яблыкі, 1 кг | 10 900 | 1,09 | 10 900 | 1,09 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 21 900 | 2,19 | 14 900 | 1,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.08 | 18.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9652 | **1,9388** |
| Еўра | 2,1902 | **2,1833** |
| Злоты, 10 | 5,1102 | **5,1147** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0323 | **3,0303** |
| Грыўня, 100 | 7,9234 | **7,7572** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 17.08** | | |
| Еўра | 2.1600/2.2000 | **2.1600/2.1900** |
| Долар ЗША | 1.9500/1.9700 | **1.9200/1.9430** |

## Макавае насенне ў заплечніку: у Вілейцы шукаюць наркаманаў

**ВІЛЕЙКА**

У суботу, 13 жніўня, знайшлі заплечнік з насеннем маку.

Ён стаяў на вуліцы Чапаева, каля дома №60. Пры аглядзе ў ім знайшлі макавае насенне.

Па словах **Юрыя Высоцкага**, начальніка службы па наркакантролі РАУС, цяпер супрацоўнікі аддзела ўнутраных спраў высвятляюць, каму маглі належаць наркотыкі. У следства ёсць пэўныя меркаванні на гэты конт.

Праводзіцца праверка.

## У возеры Мядзел патануў мужчына

**МЯДЕЛ**

8 жніўня ў возеры Мядзел загінуў дайвер.

Раніцай у 7:05 у мядзельскую выратавальную станцыю патэлефанавала жонка мясцовага жыхара. Жанчына паведаміла, што муж прыблізна ў 4 раніцы пайшоў займацца дайвінгам на возеры і не вярнуўся ў прызначаны час.

Брыгада выехала на месца. Цела 41-гадовага мужчыны знайшлі ў возеры.

– Верагодна ў мужчыны стала дрэнна з сэрцам, – мяркуе начальнік выратавальнай станцыі **Дзмітры Мялешка**, – Цела было на невялікай глыбіні: прыкладна 1,5 – 1,7 м.

## Пакуль гаспадара не было, загарэўся яго дом

**МЯДЗЕЛ**

У 24:00 інспектарам паведамілі, што ў вёсцы Нарач загарэўся жылы дом.

– Калі мы з брыгадай прыехалі на месца здарэння, дом быў моцна задымлены. Адкрытага полымя не было, – кажа інспектар Мядзельскага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Балаш**. – Ахвяр няма. Згарэлі два жылых пакоі і кухня. Гаспадара ў час пажару дома не было. Прычына высвятляецца.

**Аддзел інфармацыі.**

## Шукаюць жыхара Мядзельшчыны, які з'ехаў на заробкі ў Расію

**МЯДЗЕЛ**

Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта шукае зніклага без вестак **Івана Перадрэева.** Яму – 48 год, ураджэнец Казахстана. Жыў у засценку Брылі на Мядзельшчыне.

У 2003 годзе выехаў у Расію і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне не ўстанавілі.

Прыкметы: на выгляд 50 год, рост каля 160-165 сантыметраў, шчыльнага целаскладу, твар еўрапейскага тыпу, высокі лоб, карыя вочы, прамы нос, прамыя цёмна-русыя кароткія валасы, моцны голас, памер нагі 40-41.

З асаблівых прыкмет: на перадплеччы правай рукі шнар даўжынёй каля 10 сантыметраў, на правай кісці не разгінаецца мезенец.



Зніклы Іван Перадрэеў.

Пры сабе меў пашпарт грамадзяніна Беларусі.

Калі вы маеце інфармацыю пра магчымае месцазнаходжанне Івана Перэдрэева, а таксама працавалі або жылі з ім у Расіі, просім паведаміць у Мядзельскі РАСК па нумары **(801797) 5-58-64**, або ў РАУС па тэл. **(801797) 5-54-71, 102**.

**Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта.**





Фота novostivmire.com

Мужчына загінуў за паўгадзіны язды да дому.

# Правандраваў 3 000 кіламетраў

## і разбіўся ў Мядзеле, не даехаўшы да дому 30 кіламетраў

**МЯДЗЕЛ**

Трагічная аварыя адбылася каля 19 гадзін у пятніцу, 12 жніўня, на вуліцы Юбілейнай у Мядзеле.

Кіроўца матацыкла "БМВ" апярэджваў па правай абочыне машыну "ГАЗ-5201". Шафёр машыны пачаў паварочваць направа і сутыкнуўся з матацыклам.

33-гадовага байкера шпіталізавалі ў рэанімацыю. У 21 гадзіну ён памёр, паведамляе абласная дзяржаўтаінспекцыя.

57-гадовы кіроўца машыны не пацярпеў.

"Народныя навіны Віцебска" ўдакладняюць, што загінулы – **Аляксандр Захарыч** з Паставаў. Ён вяртаўся з мотатурнэ па маршруце Паставы – Адэса – Малдова – Львоў – Паставы.

Старонка маладога чалавека ў сацыяльнай сетцы поўная слоў падтрымкі і шкадавання: "Вечная памяць табе – сябру, брату, бацьку і мужу", "Мы з дзяцінства сябравалі, тваёму пазітыву і знаходлівасці не было роўных!", "Як без цябе... Ты быў выдатным сябрам, заўсёды вясёлы, на пазітыве. Сэрца замерла".

**Аддзел інфармацыі.**

## Жанчыну знайшлі павешанай на дрэве

**МАЛАДЗЕЧНА**

Яе труп знайшлі прахожыя каля 17:30 у чацвер, 11 жніўня.

Следчы Маладзечанскага РАСК **Андрэй Падбярэзскі** ўдакладніў, што няма падстаў лічыць гэта забойствам: на жанчыне няма цялесных пашкоджанняў.

Жанчыну знайшлі павешанай на адным з дрэў лесапасадкі каля паварота з вуліцы Янкі Купалы на старыя гарадскія могілкі.

Загінулую апазналі па адбітках пальцаў. Яна маладзечанка 1973 года нараджэння.

Па папярэдняй інфармацыі, працавала на адным з маладзечанскіх заводаў.

У следства ёсць інфармацыя, што за дзень да трагедыі яна скардзілася на праблемы ў сям'і, агучвала думкі пра тое, каб кінуцца пад цягнік.

Па псіхалагічную дапамогу вы заўсёды можаце звярнуцца ў тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання па тэлефоне: **(80176) 74-66-20** або па адрасе: *Маладзечна, вул. Таўлая, 4*. Кансультацыі праводзяцца бясплатна і ананімна.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Выпадкова пазнаёміліся ў Мінску і абакралі хату на Валожыншчыне

**ВАЛОЖЫН**

12 ліпеня ў міліцыю патэлефанавала мінчанка, якая была на дачы ў Валожыншчыне. Пакуль яе не было дома, зніклі прадукты, спіртное, бензапіла, абутак і куртка.

На месцы здарэння знайшлі акурак, хаця ў сям'і жанчыны няма курцоў, і сляды ад пальцаў. Прадметы адправілі на экспертызу, якая доўжылася месяц. Яна паказала, што генатыпы на прадметах належаць мужчынам з іншых абласцей, які былі раней судзімыя. Адзін з іх здзейсніў каля 40 крадзяжоў.

Гаспадыня абакрадзенага дома не ведала іх.

Як толькі міліцыя адшукала мужчын, яны прызналіся ў здзейсненым.

– Аказваецца, што яны выпадкова пазнаёміліся ў Мінску, – расказвае следчая Валожынскага Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая.** – Адзін з новых знаёмых прапанаваў падзарабіць, другі пагадзіўся. Для гэтага паехалі на Валожыншчыну, бо ні аднаго ні другога нічога не трымала. Скрадзеныя рэчы мужчыны прадалі на рынку ў Ждановічах. Пасля гэтай справы разышліся.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## На Ашмяншчыне кіроўца выехаў на сустрэчную паласу і загінуў у лабавым сутыкненні

**АШМЯНЫ**

Каля 18:20 была аварыя ў чацвер, 11 жніўня.

ДТЗ са смяротным зыходам адбылося на дарозе Ашмяны – Андажава.

57-гадовы ашмянец выехаў на аўтамабілі "Сітраен С-5" на сустрэчную паласу. Там ён сутыкнуўся з "ВАЗам".

У салоне "Нівы" быў кіроўца і пасажыр. Яны атрымалі адносна лёгкія траўмы. У кіроўцы пералом ключыцы, у пасажыра пералом носа і пабіты каленны сустаў. Пасля таго, як ім аказалі медыцынскую дапамогу, пацярпелых адпусцілі дамоў.

Ад удару "Сітраен" адкінула ў кювет, дзе легкавушка перакулілася. Кіроўца загінуў на месцы.

Стаж кіравання ў загінулага – 25 год. Рамянём бяспекі ён прышпілены не быў.

**Gaigrodno.by.**

# Тры тыдні без даху і святла: жыхары пацярпелі ад навальніцы

МЯДЗЕЛ

**Жыхары чатырох пад'ездаў дома ў Мядзеле жывуць без даху. У адным з пад'ездаў тры тыдні не было святла.**

Дом №2 па вуліцы Юбілейнай – самы вялікі ў горадзе. У ім – восем пад'ездаў. 28 ліпеня ў час навальніцы вецер сарваў дах з паловы шматкватэрнага дома. Стыхія знесла шыфер, кроквы, цэглу.

Пяты паверх заліло вадой. На калідоры загарэліся электралічыльнікі. Пажарныя іх патушылі. Але кватэры ў першым пад'ездзе засталіся без святла. Назаўтра лічыльнікі ўспыхнулі яшчэ раз, бо ў іх засталася вада.

Пра гэта расказала **Вікторыя Тарасевіч**, якая жыве ў кватэры на пятым паверсе разам з мужам і маленькай дачкой.

Графік працы ў жанчыны такі, што некалькі дзён на тыдзень магла б пакідаць дачку дома. Але заводзіць у садок, бо там, у адрозненні ад кватэры, цёпла, светла і суха.

Па словах Вікторыі, рамонтныя работы актыўна вяліся два дні пасля навальніцы. Потым, кажа жанчына, засталася працаваць брыгада з трох-чатырох чалавек. Будаўнікі не паспелі зрабіць нічога істотнага.

Таму ў ноч з 9 на 10 жніўня моцны дождж зноў заліў кватэры на пятым паверсе. У прыхожай у Вікторыі мокрыя столь і сцены. У спальні вада ліецца з люстры. Ложак таксама мокры. Усохлі пах цвілі. Сапсаванае адзенне і іншыя рэчы.



Фота забяспечана Вікторыяй ТАРАСЕВІЧ.

У адной з кватэр.

Жанчына неаднаразова звярталася ў аддзел жыллёва-камунальнай гаспадаркі раёна. Паводзіны супрацоўнікаў яе не задавальнялі:

– У нас праблема, а яны то жартуюць, то абражаюць, то перакладаюць адказнасць адзін на аднаго.

Як кажа Вікторыя, пасля такіх адносін яна пачала грукаць ва ўсе дзверы, тэлефанаваць на тэлебачанне. Вельмі хочацца, каб пра бяду жыхароў даведалася больш людзей. І каб праблема нарэшце вырашылася.

Жанчына абышла ўсе кватэры на пятым паверсе. Заўважыла, што ў некаторых суседзяў сітуацыя яшчэ горшая. Сярод сямей, якія церпяць, невыносныя ўмовы, ёсць шматдзетныя.

Людзі вымушаныя прадаваць рэчы, бо няма як іх захоўваць. А зусім сапсаваныя выкідаюць.

Усім без выключэння жыхарам апошняга паверха трэба клеіць новыя шпалеры. Паступова вада пачынае цячы на чацвёрты паверх.

Кватэра пенсіянеркі **Тэрэсы Петрукові**ч на пятым паверсе таксама моцна пацярпела ад стыхіі. Вада ў спальні, прыхожай. Пацякло ўжо і ў зале, бо надвор'е дажджлівае, а маленькая брыгада не можа хутка зрабіць дах. Жанчына не разумее, чаму нельга накіраваць на такі тэрміновы рамонт больш будаўнікоў. Абяцалі, што прыедзе брыгада з васьмі чалавек, але жыхары пакуль яе не дачакаліся.

Пенсіянерка цікавілася ў супрацоўнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ці кампенсуюць ёй выдаткі хаця б за залітыя шпалеры. Аднак дакладнага адказу так і не атрымала.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Супрацоўнікі ЖКГ: Мы не сядзім без справы

Па словах дыспетчара жыллёва-камунальнай гаспадаркі, які працаваў 13 жніўня, яны не разумеюць абурэння грамадзян. Кажуць, што людзей не кінулі. Работнікі пачалі працаваць на даху адразу пасля стыхійнага бедства. У той самы дзень дацямна чысцілі дах ад смецця. Пасля закаталі яго спецыяльным мяккім пакрыццём. У кватэры, дзе няма электрычнасці, правялі дзве часовыя разеткі.

Знайшлі падрадчыка, распрацавалі базавы праект. Усё гэта справа не аднаго дня.

На частцы дома ўжо паставілі кроквы. Сіламі жыллёвы-камунальнай гаспадаркі ладзілі суботнікі. Чакалі, што да працы далучыцца нехта з жыхароў. Але ніхто не выйшаў. Два пад'езды накрылі плёнкай.

На пытанне пра большую колькасць будаўнікоў, адказваюць, што брыгада ў 7-8 чалавек на даху не патрэбная.

Святло падключылі 15 жніўня. Дах абяцаюць зрабіць на працягу месяца.

# Беларускі хлопчык у Амерыцы: за год прачытаў 500 кніжак

**Лёшка з чатырох год жыве ў ЗША. Сёлета яму 10, і пасля чацвёртага класа ён прыехаў на паўтара месяца у Беларусь.**




Фота забяспечана Марыяй БЕРАСНЕВАЙ.

Лёша – выдатнік і пераможца алімпіяды па чытанні.


My Very Special MOM

My mom is special to me because... she helps me make my favorite salad.

When I am with my mom, we like to go to shops and buy ice-cream, apples, and oranges.

I know my mom is very smart because she helps me when I can not turn on my computer.

My mom is good at many things. One thing she's best at is making my favorite soup and my favorite sandwiches.

I know my mom loves me because... she gives me hugs and kisses.

Super Teacher Worksheets - www.superteacherworksheets.com

Фота забяспечана Марыяй БЕРАСНЕВАЙ.

Вось так выглядае заданне па мове.

Да сваіх бабуль: яго тата з Маладзечна, а мама, напалову беларуска, напалову афрыканка – з Бабруйска.

Хлопчык ляцеў без бацькоў, яго суправаджала сцюардэса: дзесяць гадзін да Масквы, і яшчэ дзве да Мінска. Гаворыць, што было зусім не страшна, толькі сумна.

У Амерыцы яны жывуць у Філадэльфіі. Там больш горача, менш дажджоў, а снег бывае толькі ў лютым.

Дома сям'я размаўляе на рускай мове, а ў школе – усе па-англійску.

– Спачатку, як пераехалі, я ніяк не размаўляў з сябрамі, – прыгадвае наш герой. – Пасля прывык, і стала нармальна ўсё. Чытаць на рускай мове магу, але не цудоўна, а пісаць – гэта праблема.

Па-беларуску ён ведае асобныя словы.

Акрамя школы, Лёша займаецца плаваннем. Яму застаўся год пачатковай школы, пасля неабходна перайсці ў сярэднюю. Калі хачаш у добрую ўстанову, трэба атрымліваць выдатныя балы на тэстах, добрыя адзнакі. Сістэма ацэнак адрозная ад Беларусі. Найлепшая – гэта "A" – 90-100 балаў, далей "B" – 80-89, "C" – 70-79, "D" – 65-69, "F" – 0-64.

Лёша – адзіны ў класе, хто па выніках тэста трапіў у праграму адораных дзяцей. Дзякуючы ёй хлопчык можа прэтэндаваць на бясплатнае навучанне ў ВНУ, якое ў Амерыцы абыходзіцца вельмі дорага. Але за такі бонус і дадатковая нагрузка. За год давялося яму прачытаць 500 кніжак. Штодзень вучні бяруць адну ці дзве кнігі, чытаюць. Частка іх толькі для ўдзельнікаў праграмы, адораных дзяцей. У Лёшы атрымалася закончыць чацверты клас выдатнікам: у першай і другой чвэрці меў адну ацэнку "B", у трэцяй і чацвёртай – усе "A".

Звычайны распарадак дня наступны. Мама будзіць недзе ў сем раніцы, 20 хвілін на снеданак, апранаецца. У 7:50 прыходзіць аўтобус. У 8:50 ужо ў школе. 20 хвілін перапынак, а ўрокі пачынаюцца ў 8:30. Штодзень 5-6 урокаў, ёсць вялікі перапынак на абед. У 15 гадзін вяртаецца дамоў. Калі мама забыла даць абед у школу, то бярэ ў сталоўцы малако, фрукты. А мама дае з сабой цукеркі, бутэрброд, піццё, фрукты.

– Я школу не вельмі люблю, – шчыра прызнаецца выдатнік. – Вельмі многа часу займае, і настаўніца строгая. Яны штогод мяняюцца, строгія трапіліся ў 4-м і 3-м класах, а ў 2-м, 1-м і нулявым былі харошыя.

### Як вучыліся сёлета

У 4-м класе было 10 прадметаў: чытанне, мова, матэматыка, прыродазнаўства, грамадства, здаровы лад жыцця, музыка, маляванне, сацыялогія і камп'ютарныя тэхналогіі.

На дамашняе заданне кожны дзень даюць невялікае сачыненне. Называюць тэму і 1-2 сказы. Вучню трэба прадоўжыць пачатае і развіць тэму на адну старонку сшытка.

Па матэматыцы на лістку паперы даюць заданне, напрыклад, рашыць задачу, выканаць практыкаванне. Штодзень трэба нешта прачытаць і коратка пераказаць пісьмова, як ты зразумеў тэкст.

Падручнікі толькі ў школе, і дадому іх не носяць.

Двойчы за чвэрць пішуць рэфераты, якія пасля абараняюць. Над тэмай трэба доўга працаваць. Пасля на вялікім ватмане размяшчаюць тэкст і здымкі, малюнкі, усё, што змогуць знайсці па тэме. Дазволена карыстацца інтэрнэтам, але тэкст не спісваюць, а перадаюць сваімі словамі. Рэфераты рыхтавалі на тэмы "Радавод", "Стравы нацыянальнай кухні", "Культура народа". Для аднаго рэферата можна аб'ядноўвацца па 3-4 чалавекі.

За любы прадмет ставяць тры адзнакі: за сам прадмет, прыкладзеныя намаганні і паводзіны.

Бацькі хадзіць у школу не маюць права. Школа – закрыты аб'ект. Калі трэба звязацца з сынам ці дачкой, магчыма зайсці ў школу, але далей хола не пусцяць. Там можна перадаць запіску з просьбай, тады спецыялісты звяжуцца па тэлефоне і дамовяцца аб сустрэчы. А калі нешта тэрміновае, то паклічуць настаўніка.

### Напішыце пра дом так, каб яго прадаць

Па мове даюць цікавыя заданні. Вось прыклад аднаго сачынення. Настаўніца задала: "Вы маеце дом, які трэба прадаць. Апішыце яго так, каб іншыя захацелі купіць". Дала пералік слоў, якія трэба было абавязкова скарыстаць. За гэта сачыненне Аляксей атрымаў самы высокі бал, у тым ліку і за крэатыўнасць. Унізе настаўніца напісала, што і сама купіла б такі дом. Вось гэтае сачыненне:

*"Салодкі дом.*

*Прадаецца цудоўны салодкі дом. Ніколі больш вы не застанецеся галоднымі, калі купіце гэты незвычайны дом. Замест вокнаў тут мармеладныя мішкі, а тэрыторыя вакол дома настолькі прыгожая, што вачэй не адарваць, з падстрыжаных ледзянцовых дрэў. Вы таксама можаце пакупацца ў басейне з сіропам.*

*Калі ў вас будуць госці, то яны абавязкова раскажуць сваім знаёмым аб гэтым візіце. Увогуле для ўсіх наведнікаў гэты дом будзе здавацца чароўным лялечным дамком, а цудоўны пах будзе разносіцца за кіламетры вакол.*

*На пярэднім і заднім дворыках тут растуць прыгожыя цукеркавыя кветкі. Яны будуць прыносіць асалоду вам і вашай сям'і.*

*Спадзяюся, вы купіце гэты казачны дамок. Каштуе ён усяго 17 000 000 шакаладных долараў".*

### Заданне з фота вышэй (пераклад)

Мая вельмі асаблівая мама

Мая мама асаблівая, таму што ... яна дапамагае мне прыгатаваць любімую салатую.

Калі я з маёй мамай, нам падабаецца ... ісці ў краму і купляць марожанае, яблыкі і апельсіны.

Я ведаю, што мая мама вельмі разумная, таму што ... яна дапамагае мне, калі я не магу ўключыць свой камп'ютар.

У маёй мамы добра атрымліваюцца многія рэчы. Адна з лепшых рэчаў – ... прыгатаваць мой любімы суп і мае любімыя сэндвічы.

Я ведаю, што мая мама любіць мяне, таму што ... яна мяне абдымае і цалуе.

### Што расказвае пра Беларусь

На выхадных у Амерыцы сям'ёй ходзяць гуляць у парк. З бацькамі ездзілі ў Нью-Ёрк, дзе запомнілася статуя Свабоды.

Лёша дапамагае даглядаць дом. Мые за сабой посуд, пыласосіць усю кватэру, прыбірае смецце.

У вольны час хлопчык любіць гуляць у стратэгічныя гульні на планшэце, асабліва ў "Anno 1404", дзе трэба будаваць дамы. Падабаецца збіраць канструктар "Лега". На выхадных звычайна ідзе да сябра Алана, які праехаў з Азіі. Летам ходзяць на пляж да акіяна. З татам любяць бываць у кінатэатры.

У класе Лёшы шмат дзяцей з розных краін: Кітая, Індыі, Расіі. Часам, сябры пыталіся, што такое Беларусь. Гаварыў, што краіна каля Расіі. У абласцях каля Магілёва гавораць па-руску, а каля Мінска – на беларускай мове.

У Беларусі ў хлопчыка больш сяброў, але ў Амерыцы цікавей: больш гульняў, мама, тата. Гаворыць, што тут яму цудоўна. У Маладзечне жыве лепшы сябар Сашка, прычым яго кватэра проста пад кватэрай бабулі.

Лёша хоча пасля вучобы вярнуцца ў Беларусь і працаваць інжынерам.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

# 9 беспартыйных, 13 прадстаўнікоў розных партый

## Цэнтрвыбаркам апублікаваў спісы кандыдатаў у дэпутаты

**Пакуль змешчаныя спісы па Гродзенскай і Мінскай абласцях. Мы выбралі акругі, што належаць нашаму рэгіёну, а таксама паглядзелі, хто з прадстаўнікоў балатуецца за яго межамі.**

Па Маладзечанскай гарадской акрузе №72 зарэгістраваныя:

**Валынец Міхаіл Лявонцевіч**, 1974 года нараджэння, вартаўнік філіяла Упраўлення вытворча-тэхналагічнай камплектацыі ААТ "Мінскпрамбуд", беспартыйны, праз збор подпісаў выбаршчыкаў, жыхар Мінска.

**Жыбуртовіч Віталь Раманавіч**, 1979 года нараджэння, аператар станкоў з праграмным кіраваннем ЗАТ "Амкадор-Унікаб", член Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ад палітычнай партыі, жыхар Маладзечна.

**Кананові Людміла Мікалаеўна**, 1966 года нараджэння, намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама, беспартыйная, праз збор подпісаў і ад працоўнага калектыву, жыхарка Маладзечна.

**Пясецкая Алена Уладзіміраўна**, 1964 года нараджэння, намеснік дырэктара па якасці – начальнік вытворча-тэхналагічнай лабараторыі ААТ "Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў", беспартыйная, ад працоўнага калектыву, жыхарка Маладзечна.

**Яхімовіч Алег Пятровіч**, 1952 года нараджэння, член партыі БНФ, ад палітычнай партыі, жыхар Маладзечна.

Па Маладзечанскай сельскай акрузе №73 зарэгістраваныя:

**Аноп Лідзія Іванаўна**, 1971 года нараджэння, галоўны эканаміст сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Хажоваагра-2009", беспартыйная, праз збор подпісаў, жыве ў в. Адамавічы Маладзечанскага раёна.

**Маркевіч Іван Станіслававіч**, 1966 года нараджэння, кіраўнік справамі Мінаблвыканкама, беспартыйны, праз збор подпісаў выбаршчыкаў і ад працоўнага калектыву, жыхар Мінска.

**Смаляк Уладзімір Якаўлевіч**, 1946 года нараджэння, пенсіянер, член Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ад палітычнай партыі, жыхар Мінска.

Па Вілейскай акрузе №74 зарэгістраваныя:

**Балабанская Тацяна Леанідаўна**, 1982 года нараджэння, гандлёвы агент ПГУП "ПрофіГандальПлюс", член партыі БНФ, ад палітычнай партыі, жыхарка Маладзечна.

**Жыбуль Наталля Пятроўна**, 1975 года нараджэння, дырэктар ДУА "Вілейская гімназія №1 "Логас", беспартыйная, праз збор подпісаў выбаршчыкаў і ад працоўных калектываў, жыхарка Вілейкі.

**Келер Ганна Леанідаўна**, 1974 года нараджэння, адвакат, медыятар, партнёр адвакацкага бюро "Адвакат Груп", член Ліберальна-дэмакратычнай партыі, ад палітычнай партыі, жыхарка Мінска.

**Супрановіч Ірына Аляксандраўна**, 1973 года нараджэння, старшыня Крывасельскага сельвыканкама, член Камуністычнай партыі Беларусі, ад палітычнай партыі, аграгарадок Крывое Сяло Вілейскага раёна.

**Ціханаў Максім Віктаравіч**, 1990 года нараджэння, юрысконсульт ВГУП "МІГ-ЛТД", беспартыйны, праз збор подпісаў выбаршчыкаў, жыхар Маладзечна.

Па Іўеўскай акрузе №54 (уваходзіць і Ашмянскі раён) зарэгістраваныя:

**Бурачэўскі Міхаіл Уладзіміравіч**, 1959 года нараджэння, пенсіянер, член партыі БНФ, ад палітычнай партыі, жыхар Ліды.

**Давідовіч Ірына Бенедыктаўна**, 1964, часова не працуе, член Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ад палітычнай партыі, жыхарка Іўя.

**Маркевіч Аляксандр Іванавіч**, 1968 года нараджэння, камандзір вайсковай часці 2044, беспартыйны, праз збор подпісаў выбаршчыкаў і ад працоўнага калектыву, жыхар Смаргоні.

**Рабкоўскі Дзмітры Іосіфавіч**, 1978 года нараджэння, намеснік дырэктара па агульных пытаннях ТАА "ВышыняРэмБуд", член Ліберальна-дэмакратычнай партыі, ад палітычнай партыі, жыхар Гродна.

Па Смаргонскай акрузе №59 зарэгістраваныя:

**Вештард Ірына Зянонаўна**, 1953 года нараджэння, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнй партыі (Грамада), член Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), ад палітычнай партыі, жыхарка Смаргоні.

**Кавалька Адам Дзмітрыевіч**, 1958 года нараджэння, старшыня Астравецкага райвыканкама, беспартыйны, праз збор подпісаў выбаршчыкаў і ад працоўнага калектыву, жыхар Астраўца.

**Кучук Дзмітры Леанідавіч**, 1974 года нараджэння, дырэктар ААТ "МС Заходняя", член Беларускай партыі "Зялёныя", ад палітычнай партыі, жыхар Мінска.

**Лагвіновіч Іван Сяргеевіч**, 1982 года нараджэння, станочнік дрэваапрацоўчых станкоў замежнага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства "Косвік", член партыі БНФ, ад палітычнай партыі, жыхар Маладзечна.

**Уласевіч Мікалай Міхайлавіч**, 1951 года нараджэння, пенсіянер, член Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ад палітычнай партыі, аграгарадок Варняны, жыхар Астравецкага раёна.

### Зарэгістраваныя за межамі рэгіёну

Зарэгістраваныя некалькі нашых землякоў у іншых акругах, за межамі рэгіёну.

**Лагвіновіч Вольга Леанідаўна**, 1978 года нараджэння, жыхарка Маладзечна, член партыі БНФ, ад палітычнай партыі, зарэгістраваная ў Барысаўскай сельскай акрузе №63.

**Крук Іван Фёдаравіч**, 1944 года нараджэння, жыхар Астраўца, член Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ад палітычнай партыі, зарэгістраваны ў Гродзенскай цэнтральнай акрузе №51.

### Спісы кандыдатаў карацейшыя за спісы пададзеных на рэгістрацыю

Калі параўноўваць спісы зарэгістраваных кандыдатаў і спісы пададзеных, можна заўважыць, што да гэтага "прамежкавага фінішу" дайшлі не ўсе.

Не аказалася ў спісе па Маладзечанскай гарадской акрузе №72 **Андрэя Душэўскага**, члена ліберальна-дэмакратычнай партыі, жыхара вёскі Цюрлі Маладзечанскага раёна, **Садоўскай Алесі Пятроўны**, члена партыі левых "Справядлівы свет", жыхаркі Маладзечна, **Трывашкевіча Дзмітрыя Вячаслававіча**, беспартыйнага, жыхара Маладзечна.

Па Маладзечанскай сельскай акрузе №73 няма часова беспрацоўнага жыхара Бараўлянаў, беспартыйнага **Пракаповіча Паўла Віктаравіча**.

Па Вілейскай акрузе №74 не было ў спісах кандыдатаў **Барташэвіча Андрэя Вікенцьевіча**, беспартыйнага з Вілейкі.

Па Іўеўскай акрузе №54 у спісах не аказалася беспартыйнага ашмянца **Мядзвецкага Сяргея Тадэвушавіча**.

Па Смаргонскай акрузе №59 спісы пададзеных прэтэндэнтаў і зарэгістраваных супадаюць.

**Аддзел інфармацыі.**

---

## "Кожны поспех Сашанькі – радасць і шчасце для нас"



Фота забеспечана Наталляй Мацкевіч.

**У Сашы Якушэнка ёсць станоўчая дынаміка ў змаганні з хваробай .**

МЯДЗЕЛ

"Рэгіянальная газета" неадночы пісала пра змаганне з хваробай маёй дачкі, шасцігадовай **Сашы** з курортнага пасёлка Нарач (Купа). Зараз мы вярнуліся з лячэння з Трускаўца. За час знаходжання пашчасціла патрапіць да лепшага неўролага ў Львове **Алесі Дварняк.**

З першага погляду на Сашаньку яна сказала, што ў яе ўскоснае ДЦП і адправіла нас на магнітна-рэзанансную тамаграфію ў новай клініцы.

Прайшлі МРТ і аказалася, што ў Сашанькі пасярод двух паўшар'яў галаўнога мозгу ёсць лішняе шэрае рэчыва. Вось яно і тармозіць развіццё. У дзетак з ДЦП, наадварот, не хапае гэтага рэчыва. У Сашкі яно прыроджанае. Але калі б нашы дактары зрабілі МРТ хоць бы раз, усяго гэтага можна было пазбегнуць. Зараз гэта рэчыва ўжо як бы прыжылося ў галаве, але яно невялікае і таму найноўшымі лекамі спрабуем яго паменшыць.

У Сашкі станоўчая дынаміка ў развіцці, таму патрэбны час, своечасовае лячэнне і лекі. На дабрачынным аўкцыёне "МаеСэнс" нам пашчасціла: тры ўпакоўкі цэрэбракурына аплацiў Інакенцій (кошт 10 ампул – 280 долараў). На астатнія сабраныя грошы купілі касцюм "спіраль" для заняткаў з дзецьмі з ДЦП і яшчэ лекі на 180 долараў.

Пасля першых двух курсаў цэрэбракурына, дачка стала зусім іншым дзіцём: парухавела, усё ёй цікава, яна развіваецца на вачах. Але рэабілітацыя і лячэнне таксама вельмі неабходныя. Усё трэба рабіць разам, нельга спыняцца ні на хвіліну.

### Ёсць вельмі добрая станоўчая дынаміка

Кожны поспех дачкі — гэта радасць і шчасце для нас. Мы прайшлі сем курсаў лячэння ў клініцы ў Трускаўцы, двойчы выкарыстоўвалі метад дэльфінатэрапіі. Карысталіся метадамі нетрадыцыйнай медыцыны, праходзім дарагое медыкаментознае лячэнне. І ўсё гэта разам дае вельмі добрую станоўчую дынаміку.

Саша навучылася сама есці, стаяць ля поручняў хоць нядоўга, але ўпэўнена.

Садзіцца і сядзець без падтрымкі, поўзаць сваім метадам – на лакцях. Локці ўсе сінія ўжо – сэрца сціскаецца, калі ўсё гэта бачыш. Але Сашка ўсё роўна, нягледзячы на боль, можа пакуль перасоўвацца па падлозе такім метадам.

У плане псіхаматорнага развіцця скачок наперад вельмі вялікі: ведае ўсё па малюначках, усе колеры, разумее, што ёй гаворыш. Любіць ляпіць. Мы з ёй сталі займацца ў карэкцыйным цэнтры. Дачка вельмі старанная, спрабуе зрабіць усё, што ёй кажа лагапед, хоць ручкі з-за парушэнняў кардынацыі часам і не слухаюцца. Ёсць, вядома, вялікія складанасці з ножкамі, асабліва са ступнямі. Сашанька навучылася казаць словы "ма-ма", "ам-ам", "баба" і "ваба".

У лістападзе зноў неабходна прайсці курс рэабілітацыі ў клініцы ў Трускаўцы. Трэба сабраць 2650 долараў ЗША.

**Наталля МАЦКЕВІЧ, мама Сашы. к. п. Нарач.**

**Даведка "РГ".** Дыягназ Сашы – ДЦП спастычны тэтрапарез трэцяй ступені цяжкасці, затрымка маўленчага развіцця, плоска-вальгусная.

### Як можна дапамагчы

Рэквізіты дабрачыннага рахунку ў цэнтры банкаўскіх паслуг №619 ААТ "ААБ "Беларусбанк" г. Мядзел, вул. Набярэжная, д. 4, УНП 600198997, МФО 153001769

– **беларускія рублі** – транзітны рахунак №3819382190343 на дабрачынны рахунак №000009 у цэнтры банкаўскіх паслуг № 619, бестэрміновы;

– **расійскія рублі** – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак № 000005 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы;

– **долары ЗША** – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак № 000025 у цэнтры банкаўскіх паслуг № 619, бестэрміновы;

– **еўра** – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак №000002 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы.

**Назначэнне плацяжу:** Мацкевіч Наталля Рыгораўна, на лячэнне і рэабілітацыю дачкі Якушэнка Аляксандры Паўлаўны.

**Адрас для паштовага перавода:** 222395, Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Мядзельскі раён, к. п. Нарач, вул. Кастрычніцкая, д. 33. кв.32, Мацкевіч Наталлі Рыгораўне. Назначэнне плацяжу: на лячэнне і рэабілітацыю дзіцяці Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны згодна з выпісаным эпікризам №21777/573 і пасведчаннем серыі 09 №0431282.

**Картка Беларусбанка** 4255200037125143 да 11.17;

**карт-рахунак** 637000489.

**PAYPal:** anelamackiewich@gmail.com

**EasyPay:** 00344176

Кантакты: **8 (01797) 25-1-92** – хатні тэлефон, **(8029) 256-75-32** – Наталля, мама Сашы.

# Быў час, быў дзень, была эпоха...

**Знаёмім чытача з выбранымі фрагментамі ўспамінаў гісторыка Міхаіла Філістовіча, які доўгі час працаваў на Вілейшчыне і Маладзечаншчыне.**
*** Хто запраста мог назваць Машэрава Пецем?**
*** Чаму верталёт для Прытыцкага зрабіў аварыйную пасадку ў Маладзечне?**
*** Якія плошчы брукавалі камянямі старажытнага Крэва?**
**Адказы ў першай частцы ўспамінаў.**

Чытач старэйшага пакалення словы гэтыя адразу пазнае. Яны "Са сказа пра Лысую гару". Гадоў сорак было таямніцай, хто таленавіта і адважна па тых часінах напісаў гэты твор?

Хадзіў ён па руках, патрапіў і мне ў 1981 годзе. Старанна перапісаў з пажоўклых машынапісных аркушаў.

У зручны выпадак спытаў у **Максіма Танка**, хто напісаў? Пачуў ад "аксакала": "Не ведаю, але ўпэўнены, што напісаў паэму адзін чалавек, бо другі саўтар даўно ўжо б пахваліўся". Казалі, што была яна і на стале ў **Пятра Міронавіча Машэрава**. Тут ваганняў у мяне няма: спецслужбы сваю справу ведалі. Менш упэўнены ў тым, бо побач "не стаяў са свечкай", што казалі пра **Анатоля Вялюгіна**: на сустрэчы Машэрава з творчай інтэлігенцыяй паэт падышоў да кіраўніка рэспублікі і прабачлівым голасам, каб падстрахавацца на ўсякі выпадак, спрабаваў запэўніць яго, што не ён напісаў гэты твор; у адказ жа атрымаў: "О-о-о! Каб ты мог такое напісаць!"

Аўтар назваў сябе толькі ў 90-я гады. Мяне не здзівіла, што гэта быў **Ніл Гілевіч**. Ён такое мог!

### Партызаны Вілейшчыны

Для мяне ў дзяцінстве найвялікшым начальнікам для той пары, акрамя Сталіна, быў першы сакратар Маладзечанскага абкама камуністычнай партыі **Іван Фролавіч Клімаў**. А першую гісторыю пра яго асобу пачуў ад свайго бацькі.

Ёсць і зараз у Маладзечне за стадыёнам даволі вялікі драўляны дом з мезанінам. Там пасля вайны жылі сакратары абкама, а потым усе першыя сакратары Маладзечанскага гаркама КПБ. Непадалёку і зараз месціцца сядзіба маіх бацькоў.

Дык вось, у 1949 годзе Клімаў даў загад знайсці цесляра, які б зрабіў лесвіцу на другі паверх. Выбар паў на майго бацьку. Узяў ён неабходныя прылады і пайшоў да іх на кватэру. Пакумекаў, што лепшага ратунку няма, чым зрабіць вінтом. Вяртаецца пасля працы дамоў кіраўнік вобласці і горада, агледзіў такое "цуда" і грозна: "Якую "храновіну" (сказана было мацней, бо за словам не для друку Клімаў у кішэню не лез) ты тут мне закруціў?!" У бацькі і душа ў пятах: часы былі такія, што можна і загрымець. Але неяк здолеў пераканаць, што маршавая лесвіца тут ніяк не магла змясціцца. Сакратар памякчэў, спытаў, ці ёсць дзеці і даручыў жонцы наліць майстру шклянку гарэлкі, а дзецям даць кілю цукру.

У сталыя гады я мог часта бачыць Івана Фролавіча ў сценах Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ падчас, калі карпеў у яго архівах пры напісанні дысертацыі. А ён быў там навуковым супрацоўнікам і працаваў над сваімі мемуарамі "Партызаны Вілейшчыны".

Гэта быў ужо час яго "захаду". А да гэтага былі высокія рэспубліканскія дзяржаўныя пасады, у займанні якіх немалую ролю адыграў Петр Міронавіч Машэраў. Толькі Клімаў дазваляў сабе называць першую асобу рэспублікі "Пеця", а калі перад якой нарадай выведаў, што "Пеці" не будзе, дэманстратыўна казаў, што яму тут няма чаго рабіць! Адкуль такое шакавальнае панібрацтва?

Вытокі яго бяруць пачатак з часоў сумеснай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на Вілейшчыне. Там Клімаў быў першым сакратаром падпольнага абкама КП(б)Б, а Машэраў пры ім "камсамольцам" – першым сакратаром падпольнага абкама ЛКСМБ. Клімаў лічыў, што Машэраў павінен быць удзячны і асабіста яму за атрыманае ў 1944 годзе звання Героя Савецкага Саюза.

І сапраўды, не падпішы Клімаў неабходныя для гэтага паперы аб яго баявых заслугах, і "Пеця" мог застацца без Залатой Зоркі? Потым яны такім "тандэмам" пераедуць у Маладзечна, дзе ўзначаляць адпаведныя абкамы. Калі ў 1968 годзе Клімаў выпрацаваў свой "рэсурс" як намеснік старшыні Савета Міністраў БССР, Машэраў, як ужо значна большы кіраўнік, стварыў пад яго пасаду намесніка старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Але калі і на ёй ужо стала Клімаву "не па ўзросту", яго вырашылі пацяху "збыць" на навуковую працу ў Інстытут гісторыі партыі.

Казалі, што Машэраў, каб пазбегнуць гэтай далікатнай сітуацыі, з'ехаў на тыя дні ў Маскву. У Інстытуце толькі перад кабінетам Клімава заслалі падлогу дываном, і толькі яго чакала на вуліцы каля выхаду замацаваная за ім "Волга".

### Два дні, што ўзрушылі Маладзечна

Здарыліся яны дзесьці ў 1954 ці 1955 годзе пры **Сяргею Восіпавічу Прытыцкім**, пераемнікам Клімава на пасадзе першага сакратара Маладзечанскага абкама КПБ.

Прыгожы, статны мужык. Часцяком бачыў, як ён пехатой хадзіў на працу, за ім, як цень, ззаду прыглядаў ахоўнік.

Дык вось, аднойчы вясной цішыню над Маладзечнам гулка парушыў стрэкатам верталёт, які нізка ляцеў. Ды ягчэ і прызямліўся на стадыёне. Такога не бывала!

Першымі кінуліся паглядзець на гэтую "птушку", кінуўшы ўрокі, мы, вучні бліжэйшай да месца падзеі СШ № 2. Затым сталі прыбываць і дарослыя з непадалёку мэблевай фабрыкі і іншыя "зявакі". Даведаліся, што верталёт быў высланы для Прытыцкага, каб ён асабіста агледзеў наступствы вялікай паводкі ў Дрысенскім раёне вобласці. Там выйшла з берагоў Заходняя Дзвіна і прынесла нямала гора людзям. Але, на бяду, лятальны апарат сапсаваўся і затрымаўся на два дні, пакуль прыбудзе з Мінску і зробіць сваю справу рамонтная брыгада.

Два дні ў горадзе ніхто толкам не вучыўся і не працаваў. Усе мецілі да стадыёна паглядзець, чым скончыцца гэта незвычайная гісторыя. Давялося нават выставіць ачапленне, каб не адкруцілі ад верталёта штонебудзь.

Сяргей Восіпавіч пакінуў пасля сябе памяць стварэннем у Маладзечне новага гарадскога цэнтра – плошчы Леніна (зараз– Цэнтральнай). Дамінантай яе стаў велічны, у класічным стылі будынак абкама партыі, перад ім помнік Уладзіміру Ільічу работы **Заіра Азгура**. Па баках: будынкі абласнога савета прафсаюзаў і аблспажыўсаюза.

Давялося ўдзельнічаць у суботніку па нарыхтоўцы камення для брукавання плошчы. А дабывалі яго са сцен былога Крэўскага замка. Хто тады думаў аб захаванні спадчыны? Так што жыхары горада, яго госці, удзельнікі фестываляў, што ходзяць па асфальту плошчы, і не ўяўляюць, што пад ім, ой як многа зведаўшыя, гістарычныя камяні!

Але надоўга давялося папрацаваць Прытыцкаму ў новым абкамаўскім гмаху. У 1962 годзе Маладзечанскую вобласць скасавалі. Сяргея Восіпавіча перавялі ў Мінскі абкам, а ў Маладзечне засталося без працы чатыры тысячы былых абласных чыноўнікаў. Ведаю такіх, што не вельмі прыязна адклікаліся аб Прытыцкім за тое, што да апошняга трымаў у сакрэце ліквідацыю вобласці: сам з'ехаў, а іх кінуў. Бог ім суддзя.

Асабіста ўдзячны яго жонцы, доктару гістарычных навук **Тацяне Іванаўне Прытыцкай**. Яна падтрымала ў 1975 годзе маё залічэнне ў аспірантуру Белдзяржуніверсітэта. Я ішоў туды "самазванцам". Паспяхова здаў экзамены, на "выдатна" напісаў рэферат, а месцаў вакантных не было. Усе былі замацаваны за так званымі "мэтавікамі" і тымі, хто па накіраванню. Гэта было на кафедры, якой кіраваў сам рэктар **Уладзімір Міхайлавіч Сікорскі**. Яна сказала, што забярэ гэтага хлопца да сябе на кафедру.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ, кандыдат гістарычных навук.**

**Чытайце ў працягу:**
*** Які ты гаспадар, калі авечак не маеш?**
*** Як Дога Чапрагу са сцэны папрасіў?**




Іван Фролавіч Клімаў. У пасляваенныя гады ўзначальваў Маладзечанскі абкам партыі.

**Пра аўтара. Міхаіл Філістовіч**, кандыдат гістарычных навук. Нарадзіўся ў 1940 годзе у в. Рэдзькавічы на Вілейшчыне. Кандыдат гістарычных навук. У 1963-1982 гг. працаваў у адукацыі і парторганах Вілейшчыны, Маладзечнашчыны, Мінскай вобласці. З 1988 г. – Мінскай вышэйшай партыйнай школе, у 1989-1991 гг. – інструктар, загадчык сектара ЦК КПБ. У 1991-1995 гг. – кіраўнік Дзяржаўнай гісторыка-культурнай экспедыцыі па выратаванню помнікаў гісторыі і культуры ў раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. З 1995 г. – у вышэйшых кантрольных органах Беларусі. Жыве ў Мінску.

## КАЛЯНДАР

### 19 ЖНІЎНЯ

**У 1925** годзе ў Вільні пачалі выдаваць газету "Жыццё Беларуса". Яна выходзіла на беларускай мове. Выступала ў абарону правоў беларусаў, у тым ліку за родную за мову.

### 20 ЖНІЎНЯ

**У 1896** годзе запатэнтаваны тэлефон з наборным дыскам.

### 21 ЖНІЎНЯ

**У 1911** годзе з Луўра скралі партрэт Моны Лізы. Праз два гады карціну выпадкова знайшлі ў Фларэнцыі. Затрыманы злодзей тлумачыў учынак тым, што хацеў аднавіць справядлівасць, вярнуўшы Італіі скрадзены Напалеонам шэдэўр.

**У 1981** годзе навукоўцы ўпершыню паведамілі аб пагрозе глабальнага пацяплення на планеце. Ад пачатка 20 стагоддзя сярэдняя тэмпература паветра ўзрасла на 0,74 градусы Цэльсія. Кожнае з апошніх трох 10-годдзяў было цяплейшым за папярэдняе. Змяненні клімату і яго наступствы ў розных рэгіёнах будуць адрознівацца. Сярод наступстваў чакаюцца экстрымальныя з'явы надвор'я: хвалі спёкі, засухі і ліўні, выміранне біялагічных відаў, пагроза харчовай бяспекі.

### 22 ЖНІЎНЯ

**У 1950** годзе нарадзіўся беларускі матэматык Анатоль Мяцельскі. Аўтар навуковых прац па якаснай тэорыі аптымальных працэсаў, тэорыі кіравання сістэмамі з паслядзеяннем. Даследаваў шэраг задач тэорыі кіравання.

**У 1999** годзе памёр Віталь Вольскі, беларускі празаік, драматург, літаратуразнаўца, краязнаўца, палітычны дзеяч, кандыдат філалагічных навук.

### 23 ЖНІЎНЯ

**У 1917** годзе нарадзіўся беларускі паэт Пімен Панчанка.

### 24 ЖНІЎНЯ

**110 год** таму нарадзіўся ў фальварку Баўдыры Ашмянскага павету беларускі грамадскі і палітычны дзеяч Юльян Саковіч. За сувязь з камуністычным падпольным рухам выключаны з Віленскага ўніверсітэта. Арыштаваны ў 1933 годзе і на працэсе над кіраўніцтвам Таварыства беларускай школы прыгавораны да трох гадоў турмы. У 1939 годзе цудам застаўся жывы пасля арышту ў НКУС. Радыкальна змяніў погляды. Быў начальнікам мінскай паліцыі. Пратэставаў перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі супраць знішчэння мірных жыхароў і спалення вёсак. У 1943 годзе забіты.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭМА НУМАРА

# Будучыя жанчыны-афіцэры прымуць прысягу пад Смаргонню

СМАРГОНЬ

**У Інстытуце пагранічнай службы Рэспублікі Беларусь – эксперымент. Упершыню за ўвесь час існавання навучальнай установы на першы курс прынялі дзяўчат.**

Да прыняцця прысягі шчаслівыцы, якія пераадолелі ўсе неабходныя для паступлення ў ваенную ВНУ выпрабаванні і конкурс пяць чалавек на месца, курс маладога байца праходзяць у навучальным цэнтры Інстытута пагранічнай службы пад Смаргонню.

... Дождж – як з вядра. А на пляцы адбіваюць крок новаспечаныя курсанткі, выразна выконваючы каманды. Фігуры схаваныя плашч-накідкамі, твары – пад капюшонамі. І толькі калі дождж прыцішваецца, і капюшоны знятыя, заўважаеш і старанна заплеценыя ў касічкі валасы, і дзявочыя ўсмешкі. Здаецца, страявая падрыхтоўка на пляцы з аўтаматам пад суцэльным дажджом – выпрабаванне не для далікатных жаночых плячэй, а яны нічога, усміхаюцца.

– Спачатку, вядома, было ўсякае: і крок збіваўся, і не атрымлівалася нічога, – успамінае курсавы афіцэр трэцяга ўзвода першага курса факультэта №1 маёр **Вольга Гайманава**. – Цяпер ужо нічога, прывыклі, навучыліся.

А прывыклі і навучыліся за два тыдні – роўна столькі прайшло з таго часу, калі яны ўпершыню апранулі форму і атрымалі першае вайсковае званне – курсант.

Цяперашні набор дзяўчат на вучобу ў інстытут памежнай службы – першы ў гісторыі не толькі навучальнай установы. Калі будучых памежнікаў рыхтавалі на адным з факультэтаў Ваеннай Акадэміі Беларусі, прымалі сюды выключна прадстаўнікоў моцнага полу. Але прыярытэты мяняюцца, у пунктах пропуска цяпер працуе шмат вайскоўцаў-жанчын. Вось і пайшлі на эксперымент – прынялі на вучобу 20 дзяўчат. Іх спецыяльнасць – афіцэры памежнага кантролю, працаваць яны будуць у пунктах пропуску.

– Усе мае курсанткі – людзі, матываваныя на службу, – гаворыць курсавы афіцэр пра сваіх падапечных. – З дваццаці дзве ўжо служылі ў памежнай службе па кантракце, ім усе патрабаванні звыклыя і зразумелыя. Пяцёра – выпускніцы кадэцкіх класаў – тым не ў навіну страявая падрыхтоўка. Астатнія 13 – ўчарашнія школьніцы, сямнаццацігадовыя дзяўчынкі. Не схаваю, адаптацыя праходзіла няпроста – цяжка давалася страявая падрыхтоўка, учора дзяўчаты першы раз узялі ў рукі зброю, была агнявая падрыхтоўка. Але, калі шчыра, перыяд адаптацыі прайшоў значна хутчэй, чым мне здавалася. Яны ў нас моцныя духам, бачаць перад сабой мэту і ідуць да яе, што называецца, напралом. У гэтым мужчынам-курсантам ў іх можна павучыцца.

Распарадак і ў курсантаў, і ў курсантак аднолькавы: пад'ём а 6-й раніцы, у 7.10 сняданак, з раніцы фізічная падрыхтоўка, прабежка, заняткі страявой на пляцы, агнявая падрыхтоўка, лекцыі ў аўдыторыях.

**Ніякай касметыкі нідзе, ланцужкоў і іншых упрыгожванняў. Мабільныя тэлефоны выдаюць толькі па выходных, каб патэлефанаваць маме, супакоіць яе. Інтэрнэту няма. Час для асабістых патрэбаў – усяго 50 хвілін у дзень. Ніякіх паслабленняў.**

– Напэўна, у гэтым і ёсць рамантыка ваеннай службы, – хаваючы твар ад зноў набеглага дажджу пад капюшонам плашч-палаткі, распавядае маёр Гайманава.

Начальнік аддзялення псіхалагічнага суправаджэння інстытута пагранічнай службы капітан **Наталля Валахановіч** кажа: поспех любой справы залежыць ад таго, як маладыя змогуць адаптавацца да новых умоў. Дзяўчаты не скардзяцца, не ныюць, а па-дзелавому ставяць пытанні. Яны ўмеюць цярпець і працаваць над сабой. Насуперак распаўсюджанай думцы, што жаночага сяброўства не бывае, яны вельмі падтрымліваюць адна адну, дапамагаюць.

**Наталля МАРКЕВІЧ.**



Фота Аляксандра Манцэвіча.

Фізічна прыгажунямцяжка, але ўсе нагрузкі сплянаваны па нарастаючай. І, як сцвярджаюць псіхолагі, адбываецца непазбежная адаптацыя да іх. 16 жніўня на плацы.



Фота Аляксандра Манцэвіча.

Курсавы афіцэр Вольга Гайманава, строгая і клапатлівая, як мама, стала для гэтых дзяўчат галоўным чалавекам на ўсе чатыры гады вучобы.



Фота Аляксандра Манцэвіча.

І берцам ёсць дзе сохнуць. У бытавым пакоі.



Фота Аляксандра Манцэвіча.

Алена Манкевіч скончыла школу алімпійскага рэзерву ў Гродне, майстар спорту па вольнай барацьбе. Упэўненая, што яе спартыўныя навыкі спатрэбяцца ў будучыні.



Фота Аляксандра Манцэвіча.

Начальнік аддзялення псіхалагічнага суправаджэння інстытута пагранічнай службы капітан Наталля Валахановіч працуе з курсанткамі з першага дня іх паступлення. Яна ведае: поспех любой справы залежыць ад таго, як маладыя змогуць адаптавацца да новых умоў.

# Абавязак кожнага выратавальніка – зрабіць вясельныя фотаздымкі каля пажарнай машыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Выратавальнікі Наталля Камандзірчык і Руслан Магала пайшлі далей гэтай традыцыі – яны зрабілі вяселле ў стылі выратавальнікаў. Амаль кожная дэталь і аксесуар на святе былі з сімвалам іх прафесіі.**




Фота Наталлі КІСЛІЦКАЙ.

У выратавальнікаў існуе традыцыя – абавязкова трэба зрабіць фотаздымкі каля пажарнай машыны. Мыладыя таксама не адмовіліся ад яе, наадварот, гэта першае месца, куды паехалі пасля рэгістрацыі.

Пара пазнаёмілася ў каледжы ў Салігорску. Руслан адвучыўся ўжо год, Наталля з Ваўкавыска толькі паступіла.

– Мне ніяк не даваўся прадмет прыкладная механіка, – расказвае дзяўчына. – І аднойчы аднагрупнік гаворыць: “Падыдзі ты да Руслана Магалы з другога курса. Ён разумны, усё патлумачыць, а тым больш ты яму падабаешся, яшчэ і заданні рашаць будзе”.

Так Наталля і зрабіла. Хлопец дапамог з прадметам і пачаў заляцацца: дарыў кветкі, запрашаў у кіно, на прагулкі ў парк. Так пачаліся адносіны.

– У каледжы мы заўсёды былі разам, – дзеліцца ўспамінамі дзяўчына. – А скончыў вучыцца, і я засталася адна: першы час ніяк не магла прывыкнуць, што яго няма побач. Віселі гадзінамі на тэлефоне, ездзілі адзін да аднаго.

Пасля вучобы Наталля трапіла па размеркаванні ў Ліду, але пара шукала спосабы, як перавесціся ў Маладзечна. Нарэшце вызвалілася месца, і дзяўчына трапіла ў родны горад каханага – Маладзечна.

## “Я больш не магу цярпець, Наташа, стань маёй жонкай”

Як і большасць хлопцаў, Руслан доўгі час збіраўся з думкамі, як зрабіць прапанову. Рашыўся малады чалавек на гэты крок на другі дзень вяселля сястры Наталлі.

– Ён быў вельмі задумлівы, мітусіўся з аднаго кута ў другі, – з замілаваннем узгадвае дзяўчына. – А пасля выйшаў і адрывіста сказаў: “Лілія Васільеўна (так завуць маму нявесты), я не магу больш цярпець. Наташа, ці згодная ты стаць маёй жонкай і дзяліць усе радасці і турботы разам, быць са мной у багацтве і беднасці, пакуль смерць не разлучыць нас?” Пры гэтым стаў на адно калена і дастаў з кішэні скрыначку з пярсцёнкам – усё было, як у кіно.

Мама Наталлі з гумарам успрыняла гэта: “Можа і мяне хто-небудзь спытае. Ці згодная я на гэта?”

Пасля адказнага і хвалюючага моманту пара пачала рыхтавацца да вяселля. Спачатку думалі зрабіць аздабленне залы ў фіялетавым колеры.

Але аднойчы сяброўка Наталлі запрасіла яе на сустрэчу, дзе збіраліся вясельныя спецыялісты і прапаноўвалі паслугі, расказвалі пра адметнасці работы. Наталлі спадабалася ідэя з тэматычным вяселлем у марскім стылі, але сама на той час не планавала такое.

## Конкурсы са шлемамі і каскамі

– Неяк сядзела і думала, як зрабіць наша вяселле адметным, – расказвае нявеста. – І тут нібы лямпачка загарэлася – а чаму б не зрабіць у стылі выратавальнікаў. Прапанавала Руслану, ён падтрымаў. Тым больш на ўрачыстасць запрасілі гасцей, якія звязаныя з гэтай прафесіяй.

Маладыя выказвалі самыя розныя ідэі, як арганізаваць тэматычнае вяселле, спецыялісты дапамагалі рэалізаваць задумы.

Замест звыклых бан-баньерак (каробачак для цукерак) маладыя замовілі пернікі ў выглядзе пажарнай машыны. Тамада прыдумаў конкурсы са шлемамі і каскамі.

Замест фіялетавага колеру афармленне было ў бела-чырвонай гаме: на талерках сурвэткі складзеныя ў выглядзе чырвонай сарочкі выратавальніка, побач картка рассадкі з вогненым сэрцам. На стале маладых чырвоны абрус, у вазачках – чырвоныя галінкі каліны, сімвал жаночай долі.

## Выйграць у конкурсе вогнетушыльнік

За ўдзел у конкурсах госці маглі выйграць “вогнетушыльнік”, але несапраўдны. У такім выглядзе былі вясельныя бутэлькі.

Нават падвязка ў нявесты была незвычайная – з пятліцай са знакам МНС.

– Планавалі, што торт замовім вельмі крэатыўны, – расказвае Наталля. – На ім жаніх, які цягнецца да пажарнай машыны, бо нават у самы шчаслівы дзень свайго жыцця не можа забыцца на працу і імкнецца ратаваць чалавецтва. Нявеста цягне яго назад – не трэба забывацца на свята. Аднак крыху спрасцілі – на торце былі жаніх у баёўцы і нявеста ў касцы.

Для гасцей зрабілі бутаньеркі з сімволікай выратавальнікаў. Замест скрыначкі, у якую кладуць невялікія сувеніры і грошы, муляж пажарнай машыны.

– Шкада, што самыя цікавыя ідэі прыходзяць у галаву ледзьве не ў самы апошні дзень, – уздыхае нявеста. – А таму вельмі цяжка ўвасобіць іх у жыццё, хоць ты не спі перад вяселлем.

## Жаніліся пад гукі скрыпкі ў ратондзе

Маладыя распісаліся 12 жніўня ў ратондзе, да якой вяла беласнежная дарожка. Ратонда была аздоблена чырвонай тканінай, побач стаялі вялізныя белыя кветкі і крэселкі белага колеру. Таксама на вяселлі былі роставыя лялькі-выратавальнікі, якія забаўлялі гасцей.

Выходзіла пара пад гукі скрыпкі.

На маладой таксама былі дэталі чырвонага колеру: чырвона-белы манікюр, чырвоны букецік. У маладога – чырвоная бабачка.

– У выратавальнікаў існуе традыцыя – абавязкова трэба зрабіць вясельныя фотаздымкі каля пажарнай машыны, – расказвае Наталля. – Мы не адмовіліся ад яе, наадварот, гэта першае месца, куды паехалі пасля рэгістрацыі.

**Чаго маладыя баяцца ў сямейным жыцці?**

– Страшна, што руціна і бытавыя праблемы знішчаць нашы пачуцці, – адзінадушныя маладыя. – Часта чуем, што пасля вяселля жыццё стала сумным і нецікавым, і праз некаторы час пары разводзяцца. Але гэта дрэннае выйсце, у любым выпадку, з якім бы чалавекам ты не быў, жыццё не можа быць вечным святам. Мы стараемся разнастаіць сваё жыццё сустрэчамі з сябрамі, прагулкамі. Кожны мае і свае зацікаўленні, гэта таксама дапамагае не надакучыць адзін аднаму.

**Негатыўнымі рысы характару, з якімі трэба мірыцца альбо перавыхоўваць.**

**Наталля:** Руслан запальчывы. Калі яму нешта не падабаецца, ён можа ў адну хвіліну адмовіцца ад справы. Я стараюся перачакаць, пакуль ён супакоіцца, а потым пераўпэўніваю, што ён не мае рацыі. Звычайна, калі пачуцці ўціхаюць, Руслан дзякуе, што не паслухалася яго.

**Руслан:** Наташа не ўмее трымаць язык за зубамі, калі нешта не падабаецца, то як пачне выказваць. І не перасправачаеш, упартая. Тады абнімаю ззаду і закрываю рот. Першыя хвіліны маўчыць, здаецца, супакоілася і спакойна паразмаўляем. Не, трывайце новы шквал эмоцый. Сітуацыя зноў паўтараецца. Але навучыўся пераўпэўніваць, пакуль маўчыць.

**Рысы, якія дапамогуць наладзіць сямейнае жыццё.**

**Наталля**: Руслан вельмі вясёлы, сяброўскі. Таму магу смела сказаць, што ў мяне ёсць свой праменьчык сонейка, сваёй жыццярадаснасцю ён падымае настрой нават у самы пахмурны дзень.

**Руслан**: Наталля – крыніца дабрыні і клопату, ёй шкада і сабачак і коцікаў, і рыбак, і ўсіх-усіх. Ну можна не любіць гэтага добрага чалавечка. А ў знешнасці падабаюцца вочы і вусны – галаву згубіць ад іх можна.

Цяпер мужчына з нецярпеннем чакае, калі Наталля прыйдзе і скажа, што яны хутка стануць бацькамі. “Быў бы самым шчаслівым, калі б першым быў хлопчык,” – дзеліцца Руслан.

**Больш фота на сайце rh.by.**

**Даведка “РГ”.**
Бутаньерка – вясельны аксесуар, які прымацоўваецца да адзення.



**Галіна Суднікові̌ч**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

НАВІНЫ

## Нашы з Алімпіяды не прывязуць медалёў

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзмітры Асанаў** з Маладзечна саступіў манголу ў 1/8 фінала.

Ён не змог прабіцца ў чвэрцьфінал алімпійскага турніру ў Рыа ў катэгорыі да 56 кілаграмаў.

У 1/8 фіналу маладзечанец саступіў **Цэндбаатару Эрдэнебату** з Манголіі з лікам 1:2.

Беларускія баксёры засталіся на гульнях у Рыа без медалёў.

АСТРАВЕЦ

**Аляксандр Ляховіч** з Астраўца фінішыраваў на 43-й пазіцыі. Ён выступаў у алімпійскіх лёгкаатлетычных спаборніцтвах па спартыўнай хадзе на 20 кіламетраў. Пераможцу кітайцу **Ван Чжэню** ён прайграў па часе амаль шэсць хвілін.

Усяго першадолелі дыстанцыю 63 атлеты з 74.

## Весляры з Мядзела сталі лепшымі ў вобласці

МЯДЗЕЛ

Прадстаўнікі Мядзельскай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву ўдзельнічалі ў першынстве Мінскай вобласці па веславанні на байдарках і каноэ ў Заслаўі.

У камандным заліку выхаванцы школы занялі першае месца. Яны заваявалі шэсць залатых, дзве сярэбраныя і сем бронзавых медалёў, паведамляе Мядзельскі райвыканкам.

У асабістым заліку Антон Смолка заняў першыя месцы на байдарцы-адзіночцы на дыстанцыях 1000, 500 і 200 метраў. На гэтых жа дыстанцыях заваявалі залатыя медалі экіпаж байдаркі-двойкі ў складзе **Ільі Дземяшкевіча і Максіма Лаўрынайца.**

## Новыя гульцы ў "Смаргоні"

СМАРГОНЬ

Пасля заканчэння першага круга "Смаргонь" пакінулі сем футбалістаў. Трэба было папаўняць склад. На прагглядзе перад стартам другой паловы чэмпіянату было некалькі футбалістаў. Шасцёра з іх уліліся ў склад клуба.

Узялі ў арэнду абаронцу **Аляксея Наско**, варатароў **Паўла Шчарбачэню** і **Андрэя Дручыка**, паўабаронцу **Паўла Вакуліча**.

Кантракты заключылі два форварды, знаёмыя па выступленнях за "Смаргонь" у 2009 і 2015 гадах, **Ігар Крывабок і Сяргей Галоўчык**, які перайшоў з "Оршы". Пра ўсё гэта паведаміў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**.

## Віляйчане зноў прайгралі ў гасцях

ВІЛЕЙКА

"Вілія" з Вілейкі традыцыі не змяняе – зноў з выезду прывезла паражэнне. У матчы чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 14 жніўня каманда сустракалася ў гасцях з "Капылём".

"Вілія" саступіла 1:4. Адзіны гол у віляйчан забіў **Максім Чабрыцкі**.

У "Віліі" пасля 12 гульняў засталося 16 ачкоў. І як вынік, восьмае месца з 12 камандаў.

Наступны матч каманды запланаваны на 21 жніўня. Дома віляйчане згуляюць са "Старымі Дарогамі".

## "Ашмяны" мінімальна прайгралі "Лідзе"

АШМЯНЫ

Пасля перапынку працягнулася гульні чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. У першым матчы другога круга 13 жніўня ФК "Ашмяны" прымалі "Ліду". Зноў ашмянцы пацярпелі паражэнне. Але мінімальнае, з лікам 0:1. Гол у вароты гаспадароў уляцеў на 38-хвіліне.

– Перад пачаткам другога круга ў ФК "Ашмяны" адбылася "перазагрузка" складу. Клуб папоўніўся дзесяццю новымі футбалістамі, а пакінулі каманду дзевяць, – расказаў прэс-аташэ ФК "Ашмяны" **Аляксандр Навумчык**. – Спадзяёмся што гэта прынясе, нарэшце, перамогі і радасць заўзятарам.

## "Смаргонь" упусціла перамогу ў дадатковы час

СМАРГОНЬ

Звышвыніковай нічыёй скончыўся дамашні матч "Смаргоні" з "Зоркай-БДУ". У нядзелю, 14 жніўня, каманды згулялі з лікам 4:4.

Ужо на шостай хвіліне **Аляксандр Клешчанок** вывеў смаргонцаў наперад, але праз пяць хвілін госці атрымалі гол.

І далей матч праходзіў па такім жа сцэнарыі: "Смаргонь" вырывалася наперад, а гульцы "Зоркі-БДУ" зраўнівалі лік. Прычым, апошні гол забілі ўжо ў дадатковы арбітрам час.

У смаргонцаў хет-трыкам адзначыўся Аляксандр Клешчанок. Яшчэ адзін гол на рахунку **Аляксея Тараканава**.

Каманды засталіся на суседніх радках у турнірнай табліцы: "Зорка-БДУ" – на шостым, "Смаргонь" – на сёмым месцы.

**Аддзел інфармацыі.**

# "Іслач" і "Маладзечна" перамагаюць і стаяць на трэцім радку

**Абедзьве каманды разбілі супернікаў і кожная ў сваёй лізе стаіць на трэцім радку турнірнай табліцы.**




Фота vk.com/fcislach.

"Ваўкі" перамаглі "варон" у няпросты для каманды перыяд.

### Вышэйшая ліга

"Іслач" разбіла аднаго з галоўных канкурэнтаў – каманду "Крумкачы" і апярэдзіла яе ў турнірнай табліцы.

Перамога з лікам 0:1 адбылася дзякуючы голу **Аляксандра Шагойкі**.

Барацьба апынулася змаганнем за трэці радок турнірнай табліцы. У ім перамагла "Іслач", атрымаўшы ў кошык 30 ачкоў.

Галоўны трэнер **Віталь Жукоўскі** пракаментаваў перамогу: "Было архіцяжка. Каманды адзін аднаго добра вывучылі. Сёння мы ўпершыню сыгралі "елачкай", у пяць цэнтральных паўабаронцаў, каб супрацьстаяць сапернiку, які моцны ў сярэдзіне поля. Да хвіліны 75 план на гульню быў такі: аддаць суперніку мяч, таму што гэта лепшая каманда, якая працуе ў контратацы. У пазіцыйнай атацы яна нячаста праводзіць гульні, і ранні гол – спрацаваў.

Была вялікая адказнасць, каб сёння перамагчы, і хлопцаў, відаць, калаціла: часам, дзе можна было прыняць мяч, яны выбіралі наперад.

*Вядома, такі гол, які мы забілі пасля розыгрышу вуглавога – думаю, ён будзе адным з найпрыгажэйшых.*

Але калі ўзяць чыста па-чалавечы, то нічыйны вынік быў бы больш справядлівы. Але тое, што мы за апошні тыдзень перажылі – мабыць, сёння нам дай бог за нашу працу. У такой няпростай псіхалагічнай сітуацыі хлопцы выйшлі, былі львамі і камандай на полі. Я вельмі рады, што мы сёння перамаглі".

Наступная гульня "Іслачы" пройдзе дома, на маладзечанскім стадыёне. Каманда сустракае віцебскіх сапернікаў з 9-й пазіцыі турнірнай табліцы ў нядзелю, 21 жніўня. Пачатак у 17:00.

### Другая ліга

Маладзечна-ДЮСШ-4" разграміла Гомель з лікам 5:1.

Гульня прынесла восьмую запар перамогу маладзечанцам.

Пасля 13 круга "Маладзечна-ДЮСШ-4" застаецца на трэцім радку турнірнай табліцы з 28 баламі. Але ад каманды "Асіпавічы" футбалістаў аддзяляе адно ачко.

Маладзечанская каманда застаецца ў лідарах другой лігі.

Па два голы забілі **Ігар Талькоўскі** і **Ігар Нарожнік**. Адзін на рахунку **Аляксандра Альховіка**.

Наступная гульня "Маладзечна-ДЮСШ-4" пройдзе ў гасцях пінскай "Хвалі" ў нядзелю, 21 жніўня. Пачатак гульні з лідарам другой лігі на сёння – а 17 гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**

# Галоўны трэнер "Іслачы" пракаментаваў скандал наконт дамоўнага матча

**Віталь Жукоўскі 10 жніўня на спецыяльна склікана́й прэс-канферэнцыі назваў імёны футбалістаў і трэнера клуба, якія маюць дачыненне да арганізацыі дамоўнага матча з брэсцкім "Дынама".**

Публікуем вытрымкі з яго каментарыя.

– Гэта праўда. Людзі казалі пра гэта ўжо ў пачатку чэрвеня, але не было пацверджанай інфармацыі, і ў гэта не хацелася верыць. Цяпер усё вылезла, было даказана.

– Калі ўчора прыйшоў на трэніроўку, на ёй не было футбалістаў **Аляксандра Тышкевіча, Аляксандра Лебедзева** і трэнера **Уладзіміра Макоўскага**. Ва ўсіх былі адключаны тэлефоны, і ўзнікла падазрэнне, што яны недзе разам. Потым стала вядома, што яны былі ў РУУС, і тэлефоны ў іх, мабыць, забралі.

Але калі яны адтуль выйшлі, мне патэлефанаваў Уладзімір Макоўскі, сказаў, што нічога страшнага не адбылося, што пасмяяліся яны там. Хоць ясна, што ў РУУС наўрад ці смяюцца.

Аляксандр Цішкевіч больш падрабязна распавёў, у чым справа. Прызнаўся ў зробленым. Калі я прыйшоў дадому, перажыў цяжкія хвіліны.

*– Яшчэ ў першай лізе ўсім было вядома, што "Іслач" – клуб "чысты", ніколі не было пытанняў. І калі сталі намякаць, маўляў, можа і я там удзельнічаў, вельмі моцна ўзлаваўся, перайшоў на мат у адрас работнікаў РУУС. Зараз прыношу прабачэнні перад імі, таму што быў у шалёным стане – ком у горле, слёзы ў вачах. Так было крыўдна!*



Фота Дар'я Бурякіна, TUT.BY.

Галоўны трэнер "Іслачы" Віталь Жукоўскі.

– Але Макоўскі сказаў: "Леанідыч, каб я сваю каманду падставіў? Ды ні ў жыцці!". Кляўся мне неадназова, я яму паверыў. Але сёння я страціў аднаго сябра...

– Высветлілася, што ў камандзе ёсць здраднікі.

– Больш гэтыя людзі ў нас не працуюць, як і **Андрэй Парываеў**. Выгнаныя з ганьбай. Як і трэнер Уладзімір Макоўскі – легенда беларускага футбола.

– Па-чалавечы мне гэтых хлопцаў дзесьці нават шкада. Добра, каб яны хаця б грошай "ссеклі". Але ўзялі гэтую тысячу долараў, затое наклікалі і на сябе, і на клуб велізарны негатыў.

– Пойдуць перамогі – непрыемнасці хутчэй забудуцца.

*– Ёсць у нас шмат станоўчых прыкладаў. Я спадзяюся, што пасля гэтага ачышчэння мы станем яшчэ мацней.*

**Паводле TUT.BY.**

# Маладога пісьменніка з Вілейкі вывучаюць у ЗША



ВІЛЕЙКА

**27-гадовы Андрэй Дзічэнка стаў адным з аўтараў, чые творы чытаюць па абавязковай праграме ў Swarthmore College, які месціцца ў Пенсільваніі.**

Акрамя маладога пісьменніка, студэнты ў раздзеле "Руская і ўсходнееўрапейская навуковая фантастыка" вывучаюць **Віктара Пялевіна**, **Карэла Чапека**, **Станіслава Лема**, **Яўгенія Замяціна** і іншых. Іх увазе прапануюць тры апавяданні Дзічэнкі: "Энергія", "Камітэт па расстрэлу паэтаў" і "Чырвоная баранеса". Сярод пытанняў для студэнтаў паводле твораў беларускага аўтара: якія сляды савецкай гісторыі вы бачыце ў штодзённым жыцці ў "Энергіі"? ці бачыце вы ў "Камітэце па расстрэлу паэтаў" адгалоскі "Мы" Замяціна? ці з'яўляюцца апавяданні навуковай фантастыкай?

Апошнія публікацыі Дзічэнкі можна ўбачыць у рыжскім часопісе "Этажы" і газеце "Звязда". Там размешчаныя апавяданні з новага зборніка з 40 апавяданняў на беларускай мове "Сонечны чалавек", які хутка выйдзе ў друк. Андрэй піша па-руску, для кнігі яму дапамагалі перакладаць творы.

Ён выдаваў першыя кнігі яшчэ ў студэнцтве, але сёння лічыць вартымі ўвагі апошнія тры: "Ты – мяне", "Пліты і правалы" і "Сонечны чалавек". Да папярэдніх работ ставіцца крытычна:

– Вельмі сырыя рукапісы, якія па збегу абставін станавіліся кнігамі. Больш нагадваюць сачыненні інфантыльнага школьніка, які начытаўся "Нейраманта" **Ульямса Гібсана**. Прыклад таго, як пісаць не трэба. У ранніх тэкстах я быў прывязаны да геаграфіі, таму свядома сябе неяк абмежаваў. Пісаў хутчэй тое, што бачыў, а не што адчуваў. Другое нашмат важней. Бачнае змянлівае і падманлівае, пачуцці больш падобныя да канстанты. Яны не змяняюцца, толькі становяцца глыбей.

Пісьменнік акрэслівае свой жанр так:

– Нават не апавяданне, а кароткія ўрыўкі з нейкага памежнага быцця. Зрок нас падманвае. Напрыклад, каханне можна ўбачыць толькі па другарадных праявах. Але глыбіні ў гэтых дэталях няма. Дэталі ж могуць быць і пастаноўкай. А пачуцці пастаноўкай не будуць ніколі, яны шчырыя.

Жанр навуковай фантастыкі ў адносінах да Дзічэнкі не зусім карэктны. Сам аўтар вызначае яго як рэальнасць, даведзеная да абсурду.

– Я ў юнацтве слухаў гурт "Тэатр Яду". Тое, як ён мяшаў у творчасці паралельныя вымярэнні, натхніла. Абсурд прыцягвае бясконцасцю інтэрпрэтацый. Можна чытаць "Малой" Бэкета ці "Дэзінсектар" Бероуза і штораз знаходзіць там новыя вуглы для светапогляду. Гэта своеасаблівая пятля Мёбіуса, толькі ў літаратуры.

Андрэй, разумеючы неабходнасць развівацца ў літаратуры, пачаў больш чытаць. Адкрыў для сябе пісьменнікаў **Ілью Масадава, Жерара Рэве**, **П'ера Гіёта**.

– Калі чытаеш іх, разумееш, што такое літаратура, заўважаеш, якая яна стройная і прыгожая.

У спіс амерыканскага каледжа апавяданні Дзічэнкі трапілі выпадкова. Пісьменнік **Уладзімір Казлоў** паказаў іх перакладчыцы сваіх твораў **Андрэа Грэговіч**. Тая пераклала, і праз яе тэксты трапілі ў каледж.

Дзічэнка не лічыць гэтую падзею поспехам, на яго думку, у літаратуры поспехаў наогул не можа быць, толькі прыемныя моманты. Як, напрыклад, той выпадак, калі амерыканскі часопіс "New Pop Lit" апублікаваў яго тэкст пасля Нобелеўскай прэміі Алексіевіч. У прадмове рэдактар пазначыў, што беларускі аўтар атрымала ўзнагароду, і яны друкуюць таксама беларускага аўтара.

Але сам Андрэй не спяшаецца называць сябе беларускім аўтарам. Ён нарадзіўся ў Калінінградзе, а пасля сям'я пераехала ў Вілейку, куды размеркавалі тату-ваеннага.

– Я хоць і чалавек, які з дзяцінства адчуваў сябе рускім, усё жыццё пражыў у Беларусі. Гэта з мяне не дастаць. Але ўся гэта мая шаманская метафізіка і ёсць балоцістая пляцоўка, у якой месціцца Беларусь. Ведаю, што я на сваім месцы.

З вілейскіх успамінаў Андрэю падабаецца прыгадваць, як збіраліся з дзецьмі ў Доме культуры ў арганізатара **Аляксандра Кнебелева**:

– Многа гаварылі, чай літрамі пілі. Міхалыч быў эрудзіраваным, выдатным настаўнікам і расказчыкам. У старэйшых класах там бавіў увесь час. Столькі кніг і фільмаў адкрыў па яго рэкамендацыі. Сумую па ім, як па добрым сябры. Усе мае сябры-равеснікі сталі вельмі паспяховымі, прыемна з імі сустракацца.

Андрэй закончыў гістарычны факультэт БДПУ, але адразу пасля яго пачаў працаваць журналістам. Сярод іншых захапленняў Дзічэнкі – філасофія і эзатэрыка. Ён мяркуе, што яму моцна пашанцавала і ў працы, і ў творчасці:

– Каля пяці гадоў таму я верыў у нейкую сваю выключнасць, пасля цвяроза зірнуў на рэчы. Перарос ужо свой радыкалізм.

На пытанне, ці шчаслівы, пісьменнік адказвае, што цяпер усё добра, і ён нарэшце знайшоў гармонію.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Урывак апавядання Андрэя Дзічэнкі "Еўропа", які перамог у конкурсе "Мост Сяброўства 2015".**

З працяглым скрыпам адсунуўшы крэсла, Алеся ўстала і пачала свой аповед.

"Еўропа – гэта спляценне прыгожых асоб і думак, якія нібы накіраваныя ў будучыню. І гэта пры тым, што чалавек на яе тэрыторыі бязмэтна перасоўваецца і шмат думае. Затым ён дасягае аблокаў і п'е іх, як таплёнае малако. Пасля гэтага спатыкаецца і пачынае плакаць. Але не ўсім запар, а толькі далёкім птушкам, якія кружаць над імі і чакаюць, як бы ім падзябсці Еўропу. Калі сабраць усе думкі гэтай тэрыторыі ў адзіны сказ, то там зусім не будзе косак. Для ўсіх слоў не хопіць радкоў, а літары змяшаюцца ў вялікі і нясмачны кактэйль, які нам усім калі-небудзь прыйдзецца расціць і падзякаваць невядомаму кухару.

Часам Еўропа пачынае надзімацца ў велізарны шар, напоўнены агнём. Тады нам усім трэба бегчы. Я адзін раз бачыла гэты шар. Ён цалкам складаўся з мікраскапічных вочных яблыкаў, працятых чорнымі сасудамі з атрутнай вадкасцю, пасля якой няма жыцця і тым больш карцін свету. Мне стала вельмі страшна, і з тых часоў думкі мае былі накіраваныя толькі ў квадраты. Там, дзе ёсць квадраты, няма месца Еўропе".

Сказаўшы сваю прамову, Алеся выйшла з класа, каб аддыхацца.

СМАЧНА ЕСЦІ

## Рэцэпт шашлыка, мяса ў якім не падгарыць



**Першым на конкурс "Кулінарны саквояжык" даслаў рэцэпт Уладзімір Галаўко з Маладзечна.**

Мужчына падзяліўся, як ён марынуе шашлыкі. Адметнасць рэцэпту ў тым, што ў ім ёсць інгрэдыент, ад якога мяса не будзе гарэць на вуглях.

**Інгрэдыенты:** 2 кілаграмы свініны, 2 чайныя лыжкі солі, чорны нямолаты перац 6-8 гарошын, лаўровы ліст (некалькі лісцікаў), папрыка, базелік, чабор, каляндра, 1 кілаграм цыбулі, 4 сталовыя лыжкі алею, паўлімона.

Вельмі важна, каб мяса было свежым, не вадзяністым. Пажадана, каб была і саланіна, але няшмат. Мяса парэзаць на кубікі па тры-чатыры сантыметры. Дадаць 2 чайныя лыжкі солі. Не перажывайце, мяса не будзе салёным, сам не асабліва люблю соль.

Пераходзім да спецый. Дадайце чорны перац, я бяру нямолаты, расціскаю бакавой часткай нажа і лязом раздрабняю. Затым лаўровы ліст, чырвоны перац, папрыка, базілік, чабор, каляндра. Але будзьце асцярожныя, шмат сыпаць не трэба.

Бяру маленькую цыбулю і рэжу напалову, але можна і кольцамі – гэта справа густу. Цыбулі крышу многа – вельмі люблю яе, асабліва, калі добра прамарынавалася. Можна дадаваць і менш.

І вось, нарэшце, мы падышлі да інгрэдыента, які дапаможа, каб мяса не падгарэла на вуглях, – алей. Дадайце чатыры лыжкі, але не бярыце аліўкавы.

Усё вельмі проста, нават калі мяса смажыць на патэльні, якое б яно добрае не было, яно пачне гарэць без алею.

Калі паклалі ўсе інгрэдыенты ў каструлю, пачынайце перамешваць, прапускайце мяса праз пальцы.

Пасля выцісніце сок з лімона і паліце ім на марынаванае мяса. Гэтым замяняю воцат. Але і яго можаце дадаць у мяса. Гэтага не раблю, бо воцату звычайна не аказваецца пад рукамі.

Пасля ўсё яшчэ раз перамешваем і накрываем талеркай, каб яна ўвайшла ўнутр каструлі, і прыціскаем нечым цяжкім.

**Мяса варта марынаваць суткі. Калі яно свежае, можна і хутчэй. Гадзін восем хапае.**

Гатуйце мяса на вялікім жары. Каб прасмажылася хапае некалькі хвілін. Але не блытайце сок смажанага мяса з крывёю.

Калі перэтрымаць шашлык, атрымаецца сухім і нясмачным.

**Паводле Уладзіміра ГАЛАЎКО.**

Падзяліцеся рэцэптам сваёй фірменнай стравы альбо страў з чытачамі. Дашліце іх на электронную пошту regionnews@rh.by, пажадана з фотаздымкамі.

За свае старанні пераможца зможа пабыць з кампаніяй на дзесяць чалавек у банкетнай зале "Глушэц", якая знаходзіцца ў Маладзечне па Ларына, 2-а.

ГАРАСКОП
18-24 ЖНІЎНЯ



**Авен.** У вас дастаткова сіл, каб здзейсніць перамены не толькі ў сваім жыцці, але і ў жыцці блізкіх. Таму дзейнічайце, пакуль шчасце на вашым баку.



**Цялец.** Смела плануйце любыя справы, звязаныя з пацверджаннем статуса, павышэннем на рабоце. І яны пачнуць рэалізоўвацца.



**Блізняты.** Галоўным ворагам можа стаць ваш язык. Гаварыць, што думаеш – добра. Аднак думаць, што гаворыш – значна лепш.



**Рак.** Тыдзень не прынясе значных перамен. Гэта добрая магчымасць пагледзець углыб сябе, пачытаць добрую кнігу, сустрэцца са знаёмымі.



**Леў.** У гэтыя дні дом і работа будуць патрабаваць павышанай увагі. Як нарокам, у вас не будзе сіл, каб дзейнічаць на два франты. Ад гэтага можа пагоршыцца настрой, не хвалюйцеся – сітуацыя хутка выправіцца на вашу карысць.



**Дзева.** У многіх пытаннях вам захочацца паставіць кропку над "і". І гэта атрымаецца зрабіць, аднак не будзьце напорыстымі. Такая сітуацыя можа прывесці да канфлікту.



**Шалі.** Вам падасца, што людзі паводзяць сябе нелагічна і непаслядоўна. Глядзіце на гэта з гумарам, не атрымаецца – выпрацоўвайце стрыманасць.



**Скарпіён.** Рыхтуйце ўсе важныя справы з вечара, тады і дні будуць пачынацца з добрага настрою.



**Стралец.** Складзецца адчуванне, што большая частка чалавецтва хоча сябраваць з вамі. Ідзіце на кантакт, сярод незнаёмцаў могуць быць важныя людзі, якія ў хуткім будучым станоўча паўплываюць на кар'еру альбо асабістае жыццё.



**Казярог.** Планы будуць ажыццяўляцца вельмі хутка і проста. У некаторыя дні ў вас будзе ўражанне, што вы злавілі залатую рыбку. Часцей дапамагайце знаёмым, ваша станоўчая энергетыка будзе карысна дзейнічаць і на іх.



**Вадалей.** Перш чым прыняць нейкае хуткае рашэнне, супакойцеся, палічыце да дзесяці і толькі пасля гэтага дзейнічайце.



**Рыбы.** Не чакайце асаблівых падзей. Тыдзень будзе настолькі спакойны, што ўсе справы, якія вы не паспявалі зрабіць, будуць вырашаны. Не думайце, што будзе сумна, наперадзе яркай падзеяй.

**Аліна ЗОРНАЯ.**

